25523

Цана 40 пф.

# НАША ЗЯМЛЯ.

Двухтыднёвая часопіс.

**№ 1.**

Кастрычнік (другая палова) 1920 г.

Адрэс: Коўна, вул. Кейстута, 15.

122926

Друкарня Бр. Гурвіч, Коўна,
вул. 16 Лютага, № 2.

Lietuvos T. Centr. Biblio. Mokslų Ak.

# Задачы „Нашай Зямлі“.

Жыхары Літвы—гаспадары, беззямельныя і малазямельныя і ўсе тыя, што цяжка працуючы цярпяць голад і нэндзу, чакаюць, калі іх жыцьцё стане лепшым, калі іх сямейкі будуць накормлены і адзеты, калі яны самі стануць моцнымі і заможнымі гаспадарамі і калі наастатку паменьшацца іх мучэньні.

Пакуль жыхара Літвы душыла маскоўская лапа, пакуль прыгнетала самаволя розных акупантаў—немцаў, бальшавікоў і польскіх паноў, датуль немагчыма было марыць нават аб лепшым заўтрашнім дні, аб палягчэньнні цяжкай нядолі.

Але маскаль трымаў у няволі наш край не дзеля таго, каб з нас зробіць шчасьлівых, багатых, асьветляных грамадзян, а дзеля таго, каб мы ў крывавым поце працавалі для павелічэньня яго багацьця. Нас трымалі ў няволі і цемры, як гаворыцца і „без граматы і без друку“, каб наш край лягчэй зносіў ярмо няволі.

А што гаварыць аб акупантах? Яны дзеля таго і занялі наш край, каб усё, што праз вякі крывавай працы набылі,—адабраць, а раней усяго налажыць на нас пяту няволі.

Нарэшце скончылося цярпеньне працуючага народу, паўстаў ён і з яго збалелых грудзей вырваўся страшэнны крык: «Проч з ярмом няволі»! І цуд стаўся. Мы сталі вольнымі; нашых парогаў і нашых сяліб ня топча нага акупантаў, нашых ніў не дратуюць коні чужых наезднікаў, у нашым краі мы гаспадары, мы незалежныя.

Часова мелі мы урад, што быў створаны группаю адданных сваёй бацькаўшчыне жыхароў краю, цяперака-жа мы маем ужо поўнага выказчыка волі ўсяго працуючага народу-

—Установчы Сойм і назначаную праз яго Спаўняючую Уладу—Габінэт Міністраў.

Вякамі палівалі сваім потам гэтую сваю зямлю—карміцельку, а сёньня, аблíўшы яе крывёю найлепшых сваіх сыноў і вызваліўшы з пазуроў уселякіх наезднікаў, працуючы народ у Літве мае права жадаць, і быць пэўным, што гэтая зямля ня будзе карміць дармаедаў-абшарнікаў і ня будзе багаціць эксплаататараў працы народнай і ворагаў вольнасьціі незалежнасьці ўсяго народу.

У вольнай і незалежнай Літве гэтае жаданьне беззямельных і малазямельных будзе споўнена, бо Установчы Сойм і яго Улада спаўняюць толькі волю народу.

Але мала таго, што толькі Установчы Сойм і яго Урад дбалі аб вырашэньні зямельнай справы,—канечна трэба, каб увесь край і усе, каго цікавіць вольнасьць Бацькаўшчыны і яе шчасьце—жылі гэтаю думкаю і на задзірванелай ніве тую самую баразну вялі.

Край цэлы зьнішчаны і зруйнованы, зямля спустошана і запушчана. Шмат цяжкай працы трэба пакласьці, каб зруйнаваную праз вайну гаспадарку аднавіць і ў новых заведзеных у дварох гаспадарках адпаведна ўрыхтавацца, каб павесьці новае жыцьцё, падобнае да жыцьця народаў цывілізаваных краёў Эўропы.

Установчы Сойм, дзеля вырашэньня патрэб народу, апрацуе адпаведны устаў—Урад яго ўвядзе ў жыцьцё. А заданьнем жыхароў краю—старацца зразумець уставы Ураду, пранящца іх духам і думкай, падтрымліваць істнуючы Урад і памагаць у гэтым, чым хто можа і як умее.

Толькі ў супольнай працы рабочы народ у Літве магчыме на чыне ўбачыць сваі жаданьні, узяць у сваю уласнасьць зямлю, падняць яе культуру да найвышэйшай меры і такім спосабам зрабіць сваё жыцьцё шчасьлівым, сьветлым і прыемным.

Заданьні „Нашай Зямлі“—злучыць жаданьні працуючага народу і працу Уладаў у адну неадалімую сілу, у адно нераздзельнае цела.

«Наша Зямля» будзе выясьняць апавешчаныя Устаноўчым Соймам уставы, тлумачыць яго праэкты, паказваць дарогі і спосабы, якімі Улады павінны ісьці пры прыёме памешчыцкіх земляў, іх падзел і раздзел паміж беззямельнымі і малазямельнымі.

«Наша Зямля» покажа працуючаму народу, як трэба будзе дапамагаць Уладам, каб хутчэй дайсьці да мэты.

«Наша Зямля» навучыць працуючы народ, як трэба рыхтавацца да жаданай зямельнай рэформы, якім спосабам вясьці гаспадарку, як зямлю упраўляць, сеяць збожжа, як падняць ураджайнасьць нівы. Словам, „Наша Зямля“ зробіцца тым лекарствам, пры дапамозе каторага працуючы на зямле патрапіць здабыць шчасьце і дабрабыт.

Дзьверы „Нашае Зямлі“ будуць адчынены для кожнага працуючага на зямлі. „Нашай Зямлі“ будзе магчы кожны выказаць боль свайго сэрца і усё гора і знайсьці спагад і падтрымку ў цярпеньні.

„Наша Зямля“ пастараецца разьвеяць яго гаротнасьць і нясьмеласьць. Тут ён знайдзе падтрымку і апору ў цяжкіх гадзінах свайго жыцьця і параду, як выйсьці з нядолі, што павісла над кожным працаўнікам і над усёю нашай Бацькаўшчынай. Не ўважаючы на тое, да якой нацыянальнасьці, да якой веры, ці да якой партыі належыць земляроб, аднолькава лагодна, аднолькава прыхільна будзе ёю прыняты. Усе яго нявырашаныя пытаньні, усе невыразнасьці і самненьні ў справах земляробства ці датычачых гаспадаркі знайдзе адказы і вырашэньні ў „Нашай Зямлі“.

Не забудзе «Наша Зямля» і аб тым, каб зьнішчыць шкодную работу найвялікшых ворагаў працуючага народу, перашкодзіць іх праэктам і папярэдзіць іх стараньні, пярэчачыя волі народу.

Ды з Божай дапамагай да працы—высокай, яснай і хвалебнай. Трэба далажыць усіх заходаў, каб „Наша Зямля“ парушыла зямлю і зьвярнула думкі, сілу душы і ўсе сьродкі працуючага народу да супольнай працы, мэтай каторае: Зямля—людзям працы.

---

# Аб зямельнай справе.

Зямельная справа ў Літоўскім Гаспадарстве была, ёсьць і ў бліжэйшыя часы будзе аднэй з самых балючых спраў. Літва галоўным чынам ёсьць краем сельска-гаспадарычм. Апрыч селяніна, каторы атрымаў сваю валоку пры падзеле зямлі па скасаваньні паншчыны, ёсьць значны лік малазямельных, маючых ад аднэй да трох дзесяцін, альбо сідзячых на невялічкіх пляцох, а таксама беззямельных дворных парабкоў і ардынарнікаў.

Калі селянін, звольніўшыся ад панскай няволі, мог, працуючы на сябе, свабадней жыць і карыстацца з варункаў незалежнага жыцьця, то малазямельныя, беззямельныя работнікі і ардынарнікі і тых невялічкіх добрых варункаў не папрабавалі Яны цэлыя дзесяткі гадоў чакалі і не маглі дачакацца паляпшэньня свайго быту і зьмяньшэньня знойнай цяжкай працы; іх доля—толькі працаваць на другіх, толькі павелічаць скарб двароў, цягнучы жыцьцё ў нэндзы і зьдзеках, ядучы цвярдую скарынку чорнага хлеба і постную палеўку. Здавалося, што іх лёсам--есьць толькі адна цяжкая праца на другіх, зьдзек і нэндза, а аднэй уцехай—бэзнадзейнае чаканьне прыходу лепшых часоў.

І чаго, па праўдзе сказаць, мог даждацца бедны працаўнік ралі перад вайной? Сваім здаровым змыслам ён вельмі добра адчуваў і разумеў самавольства расейскіх чынаўнікаў, бачыў пажаданьне ўлад расейскіх яшчэ мацней закаваць яго ў кайданы няволі, яшчэ мацней прыдавіць, аддаць пад апеку чужых прыйшоўшых сюды русыфікатараў. Зямельны абшарнік таксама не працягаў яму рукі з дапамогаю. Той зверху пазіраў на бедака, рахуючы, колькі можна выціснуць з яго карысьці для павелічэньня сваіх багацьцяў, прымушаючы яго як да найдоўжэйшай працы за найменшую плату, адначасна не дапускаючы нават блізка да асьветы, каб ня мог убачыць і зразумець сваёй крыўды, каб не спалохаўся сваёй нэндзы, свайго ўціску.

І так забіты, замучаны, абяздолены, абарваны, поўгалодны, цёмны парабак—ардынатар без надзеі палепшэньня свайго жыцьця, прыгнецяны сваім палажэньнем і не бачучы выхаду з гэтага становішча, казалося ажыдаў, як ажыдае ёж, зьвіўшыся ў клубок, пакуль ня скончыцца ў яго прыгнетацеляў жаданьне зламаць яго цярплівасьць. Некаторыя, сьмялейшыя пакідалі дворную няволю і перайшлі ў месты, але і

тут знаходзілі тую самую нядолю. У мястох Літвы прамысловасьць развіта мала, а гандаль сканцэнтрован у руках толькі жыдоўскых. Некаторыя перабраліся ў Расею, дабраліся да Амэрыкі, Афрыкі і іншых далёкіх краёў, шукаючы заробку і хлеба.

Так было да вайны.

Но вось пранёсся ваенны кліч, зараўла бура ўсясьветнай вайны, нябёсы нашай Бацькаўшчыны асьвяціліся блёскам зарава, і цэлы наш край ахапіў ваенны пажар, Задрыжалі мучыцелі Літаўскага народу: паны паўцекалі з сваіх двораў і палацаў, паўцекалі ўлады расейскія, параспаўзаліся на ўсе бакі рознага коляру русыфікатары. Астаўся толькі Літоўскі Народ, што вырас на сваей зямлі, засталіся малазямельныя і беззямельныя бедакі, засталіся парабкі дворныя. Гэныя не забыліся сваёй зямлі: ня гледзячы на няволю нямецкай акупацыі, яны засталіся, каб сьцярагчы свае роднае гняздо, каб бараніць сваё народнае багацьце, сваю карміліцу—Зямлю ад уселякіх грабіцеляў і разбойнікаў.

Вынясшы на сваіх карках усю бяду страшэннай вайны і выцерпеўшы ўсе мукі нямецкай акупацыі, Літоўскі Народ пераканаўся, што ніхто не паможа яму выйсьці з яго нядолі, калі ён сам ня прыложыць да гэтага рук. Зразумеў—жа толькі той, хто сам выцерпеў многа. І толькі калі бліснула іскра надзеі, калі пашатнулася патуга акупантаў, Літоўскі Народ паўстаў ад векавога сну, расправіў сваі члены і, падняўшы да сонца вочы, папраўдзе і шчыра сам узяўся за працу, каб падняць сваю Бацькаўшчыну з нядолі. каб самому выкаваць яе лёс і шчасьця без дапамогі чужынцоў.

Праўда, спяшылі з прэдлажэньнем сваіх услуг і бальшавікі і розныя русыфікатары—калчакаўцы, бэрмантаўцы і наастатку—польскія паны.

Але Літоўскі Народ адкінуў іх фалшывую прыхільнасьць, разумеючы, што пад гэтаю прыхільнасьцю крыецца жаданьне панаваць над ім і ўцягнуць у даўнейшае ярмо няволі і таму сваімі грудзямі заступіў дарогу на Бацькаўшчыну перад няпрошанымі прыхільнікамі. Выцерпеўшы вякі няволі, народ зразумеў наастатку, што толькі ўласнымі сіламі, без чужой дапамогі, можна стварыць добрабыт Краю і выкаваць шчасьця. Вякамі палівайшы гэту Зямлю сваім потам, а цяпер назваўшы яе ўласнаю, Літоўскі Народ яшчэ з большаю сілаю палюбіў сваю Зямлю—Карміліцу і ад яе чакае награды за свае цярпеньне. Зложаны яшчэ ў 1918 гаду Урад Літвы, вышоўшы з гэтага самага Народу, адразу зразумеў яго вялікія пажаданьні і найбольшую ўвагу зьвярнуў. на справу карыстаньня і валаданьня Зямлёй.

Наўперад у Лістападзе 1918 году было абвешчана распараджэньне аб адабраньні пад загад Ураду двораў і зямель, разданых расейскім урадам расейцам у. мэтах русыфікацыі, так званыя майораты. Распараджэньне гэтае ў сваім часе было выпаўнена, і многа тысяч дзесяцін зямлі перайшло ў валаданьне беззямелных і малазямельных.

Але-ж хто з беззямельных і малазямельных наўперад усяго павінен атрымаць зямлю, як ня тыя гэроі, каторыя падставілі сваі грудзі, бароначы незалежнасьць Бацькаўшчыны, абараняючы яе ад грабежу і робячы зашчыту ўсім страдаючым і абяздоленым, падтрымліваючы іх надзею на лепшую будучыну. А таму урад наўперад усяго пастанавіў надзяліць зямлёй беззямельных і малазямельных вайсковых, каторыя баранілі незалежнасьць Літвы. З гэтаю мэтаю 20 чэрвеня 1919 году быў абвешчан закон аб надзяленьні зямлёй вайсковых,

Для надзелу зямлёй вайсковых былі назначаны землі казённыя (быўшыя майораты, землі, належачыя да сялянскага і дваранскага банку і іншыя, знаходзячыяся пад загадам Ураду). Але лік гэных зямель, намечаных для патрэб вайсковых, быў капляю ў моры. Казённай зямлі для надзелу ею вайсковых не хватала. А таму той самы закон дазваляе забіраць для гэтай патрэбы ў Казну зямлю ад прыватных уладароў—памешчыкаў. Ад тых, каторыя маюць ад 600 да 800 дзесяцін, можа быць насільна адабрана 15 0/o, гэта значыць 15 дзесяцін налічных. а хто ўладае больш 800 дзесяц., ад таго можа быць адабрана 30 проц., значыць 30 дзесяц. з кожных 100 дзесяц. Аднятая ў сілу гэтага закону ад памешчыкаў зямля дзеліцца паміж беззямельных і малазямельных вайсковых такім чынам, каб у абладаньні кожнага разам са сваей зямлёй было ад 8 да 20 дзесяцін у залежнасьці ад гатунку і ўраджайнасьці зямлі. Але не даволі даць вайсковым зямлю, трэба яшчэ дапамагчы ім абстроіць гаспадарку. Літоўскі Урад ня мог прысьці з вялікаю дапамогай,—ён даў, што мог. Ён пастанавіў даць кожнаму вайсковаму, каторы атрымаў у надзел зямлю, ў дапамагу да 100 пнёў будоўнага дзерава ад 6 да 9 вяршкоў, да 20 пудоў азіміны і 50 пудоў ярыны на насеньне. Дзеля прыняцьця прыватных зямель і апрацаваньня вайсковых зямель, зложаны паветавыя камісіі і адна вышэйшая камісія.

На моцы гэнага закону ўжо многа тысяч дзесяцін зямлі перайшло ад памешчыкаў і раздана беззямельным і малазямельным вайсковым.

Закон гэты, разумеецца, ня мог спадабацца памешчыкам. Яны ставілі ў віну Літоўскім Уладам, што яны, не ма-

ючы даручэньня ўсяго народу, не маюць права абвяшчаць такога закону, каторы нарушае незачэпнасьць двароў прыватных Уладароў. Ня гледзячы на гэта, Літоўскі Урад ня лічачыся з укорамі. а з усёю энэргіяй правадзіў гэты закон у жыцьцё і, пакуль быў скліканы Устаноўчы Сойм, многа зямлі ў розных мясцох Літвы было адабрана ад памешчыкаў, раздзеляна на кавалкі і раздана беззямельным і малазельным.

Праводзячы гэтае, Часовы Урад быў пэўны, што Устаноўчы Сойм ня толькі не забракуе гэнага распараджэньня, але сам далей пойдзе ў тым самым кірунку. І не абмыліўся.

Устаноўчы Сойм з першых дзён сваей працы горача заняўся гэнаю справаю. А справа не цярпела адкладу. У забраных дварох і іх ваколіцах жыве вельмі шмат беззямельных парабкоў і малазямельных сялян. Улады, апякуючыя вайсковымі, не маглі крыўдзіць беззямельных і малазямельных не вайсковых. Дзеля гэтага, разглядаючы вышэйсказаны закон, Устаноўчы Сойм дапоўніў яго законам ад 3 жніўеня, пастанаўляючага надзяляць зямлёю з адабраных двароў малазямельных, каторых землі гранічаць з гэтымі дварамі, і беззямельных дворных парабкоў, пачынаючы з раней пасяліўшыхся ў данным двары і маючых большыя семьі, надзяліўшы, разумеецца, наўперад мясцовых ваенных.

Павелічаючы лік асоб, маючых права на надзел зямлі, Устаноўчы Сойм вельмі павелічыў і зямельны фонд, назначаны для гэтай мэты.

Дзеля таго Сойм пастанавіў забіраць зямлю ня толькі тых, каторыя маюць ня меней 500 дзесяцін , але і тых, каторыя валадаюць ня менш 300 дзес.

Праца Устаноўчага Сойму над вырашэньнем зямельнай справы яшчэ не закончана. Крок за крокам ідзе ён да дасьціжэньня сваей мэты ў гэным кірунку, гэта значыць, да перадачы зямлі ў рукі працуючага на ралі народу. Але аб гэтым пагаворым другі раз. На астатку трэба падкрэсьліць, што зямельная справа зьўляецца крыніцаю, з каторай ва ўсе бакі бьюць агністыя фанталы ненавісьці ўладароў зямлі да Літоўскага Гаспадарства і яго Ураду.

Тут чэрпаюць яны сваі патугі і настойчывасьць у працы над пахаваньнем незалежнасьці Літвы, капаючы дол вольнасьці і незалежнасьці працаўнікоў зямлі, абшарнікі маюць надзею, што адначасна пахаваюць моцнае жаданьне працоўнага народу звольніцца ад ярма няволі і атрыманьня ўласнага кавалка зямлі.

З гэнаю мэтаю землеўласьнікі паслалі сваіх сыноў да польскіх легыонаў, а самі з багацьцем сваім перабраліся да Варшава, каб там вымаліць у ўладаў польскіх вайсковую

дапамогу дзеля адабраньня заграбленных некалі праз іх у працоўнага народу зямель.

А таму беззямельным і малазямельным жыхаром Літвы сьледуе напрагчы ўсе сілы, каб абшарнікам не ўдалося пры дапамозе польскага аружжа зламаць жаданьне Літоўскага Ураду абяспечыць беззямельных і малазямельных працоўных людзей зямлёю.

А ні нацыанальнасьць, а ні вера не павінны быць перашкодаю нашаму народу ў дасьціжэньні гэнае найвышэйшае мэты—атрыманьня кавалка зямлі для працы і жыцьця праз захаваньне Народнай Улады Літвы.

# Што робяць Літоўскія Улады, каб парабкі і малазямельныя атрымалі зямлю.

Уся праца дзеля адраджэньня Літоўскага Гаспадарства выпала на долю выключна земляробаў і рабочых Літвы: як інтэлігэнцыя Літвы, так і яе Улада выходзяць з тых самых селян і рабочых.

Хаця ў Літве ёсьць шмат памешчыкаў, але ж яны ня толькі не памагалі Літве падняцца і тварыць новае жыцьцё, а нават наадварот большасьць з іх усімі спасабамі стараліся перашкодзіць адбудаваньню Літоўскай Дзержаўнасьці. Яны вельмі дабра зразумелі, што Улада, вышаўшая з селян і рабочых, ня будзе клапаціцца аб інтэрэсах абшарнікаў, а будзе старацца адбудаваць край так, каб у ім добра жылося ўсім людзям працы, а ня толькі тым, каторыя жывуць з чужой працы, самі нічаго ня робячы. І абшарнікі не памыліліся. Ужо з першых дзён самастойнаго жыцьця Літвы Улады абвесьцілі, што прыложаць усе стараньні, каб зямля належала да тых, каторыя ўмеюць і хочуць яе працаваць, гэта значыцца, каб зямля была адабрана ад земляўласьнікаў і аддана парабкам і малазямельным.

Дзеля поўнага развязаньня зямельнай справы і ўстанаўленьня парадку ў цэлым краі, Часовы Урад абяцаў склікаць Устаноўчы Сойм, каторы меў быць выбраны ўсімі жыхарамі Літвы. Устаноўчы Сойм ужо сабраўся, працуе і паставіў належную Уладу. Але і Устаноўчы Сойм ня можа адным махам зьніштожыць усе труднасьці. На гэтае патрэбна многа працы і не мала часу. Наўперад патрэбна ўстраніць усіх на-

пасьнікаў, што налезьлі да краю і хочуць лішыць нас вольнасьці. Адных прыцягае літоўскі хлеб, іншыя, як бэрмантоўцы і палякі, пашлі на Літву, каб бараніць дворы паноў, калі пачулі, што Літоўская Улада дзеліць дворныя землі паміж парабкаў і беднатой селянскай. Але вольнасьць даражэй за ўсё. Дзеля таго Часовы Урад Літвы наўперад усяго стараўся выгнаць няпрошаных гасьцей. Ня гледзячы на тое, што вайна яшчэ ня была скончана і не чакаючы склікаsucceeded Устаноўчага Сойму, Улады пачалі рэгуляваць зямельную справу, аддаючы зямлю працоўнаму люду. Яшчэ ў сьнежэню 1919 году Улады выдалі распараджэньне, на моцы каторага ўсе двары збегшых у часе вайны земляўласьнікаў узяты Урадам пад апеку і былі разданы ў арэнду беззямельным, малазямельным, парабкам і суседнім жыхаром. А як усе працуючыя на ралі былі зруйнованы праз вайну, то пастаноўлена абкладаць арэндатараў такімі прадуктамі, якія хто будзе мець: збожжам, картофляю, маслам, яйцамі і г. д. Гэнае распараджэньне аказалося вельмі карыстным, бо парабкі і вясковая бедната, дастаўшы зямлю, ня мела грошай.

Хаця такім чынам шмат двароў было аддана ў арэнду, але для ўсіх зямлі не хапіла. Урад, жадаючы павелічыць раллю пад збожжа і тым павелічыць лік хлеба ў краі, прыказаў земляўласьнікам, каторыя валадалі больш як 50 дзесяц. зямлі, ўсю зямлю абрабіць, а калі гэгага яны ня змогуць выпаўніць у паказаны час, аддаць слабодную зямлю ў арэнду тым, каторыя на ёй захочуць працаваць, а наўперад беззямельным і малазямельным.

Калі сам земляўласьнік зямлі ня вырабіць і ня здасьць у арэнду другім, мусіць заплаціць штраф па 3 пуды збожжа з кожнай неабсеянай дзесяціны. Хаця гэнае распараджэньне прымушала земляўласьніка абсеяць зямлю, альбо здаць яе ў арэнду, але давала яму права назначэньня ліку арэнднай платы.

Каб спыніць і ў гэным самаволю земляўласьніка, Улады выдалі распараджэньне, за якую плату належыць аддаваць зямлю ў арэнду.

Тут аказалося, што барацьба з абшарнікамі ня лёгкая. Яны моцна зразумелі, што ад Літоўскага Ураду нічаго добрага для сябе яны не дачакаюцца, а таму ўсе, як адзін, паўсталі праціў Ураду і працоўнага народу, чынячы яму розныя перашкоды ў працы. Многія з іх самі на зямлі не працуюць і другім не даюць працаваць, а калі Улада патрабуець штраф, скардзяцца, што ня маюць чым плаціць. Літоўскі Урад, бачучы, што такія пастпкі абшарнікаў робяць цэламу

краю вялікія страты. а найбольш працаўнікОм раллі, у гэным гаду дапоўніў памянены устаў. На моцы гэтага дапаўненьня, земляўласьнікі, каторыя ня могуць управіць зямлі, абавязаны здаць яе̂ ў арэнду, а калі гэтага ня зробяць, Улада забірае ад іх зямлю парабкам і ваколічным сялянам—для працы ня меней, як на тры гады бязплатна, за адну толькі аплату зямельных падаткаў,

А як некаторым нявыгодна абрабляць зямлю, ня жывучы на ёй, дазваляецца пры арэндзе на шэсьць гадоў ставіць на арандуемай зямлі будынкі. Але і гэтае распараджэньне ня вельмі спадабалося. Абшарнікі сваёй зямлі не абрабляюць і затрымліваюць аддачу яе ў арэнду беззямельным і малазямельным.

Многія з іх хацелі выгнаць нават старых арандатараў, каторыя яшчэ перад вайной альбо ў часе вайны заарандавалі кавалкі зямлі. Ясна, што Літоўскія Улады заступіліся за гэных арандатараў і забаранілі абшарнікам выганяць іх, калі яны выпаўняюць варункі дагавору.

Вельмі пажадана, каб нядаўна вызваленыя з пад польскае і бальшавіцкае акупацыі жыхары як найхутчэй абзнае̂міліся з Уставамі Літоўскіх Уладаў у справе арэнды дворнай зямлі. Кожны з асьведамленых грамадзян няхай не адкажа аб'ясьніць менш сьвядомым, што ва ўсіх зямельных справах належыць зварочавацца да Поўнамочнікаў Міністэрства Земляробства, каторыя пастаўлены Урадам дзеля упарадкаваньня ўсіх зямельных спраў.

# Мор на скаціну.

Мы перацярпелі розныя акупацыі: нас цяжка ўціскалі безсэрдэчныя немцы, яшчэ гарэй зьдзекаваліся бальшавікі, а палякі й дакончылі гэты зьдзек, бо імі наша гаспадарка зусім ужо зьнішчана. Пастаяннымі паборамі і рэквізыцыямі яны пазабіралі ня толькі збожжа і коні, але й рагатую скаціну, пакінуўшы на гаспадарку па адной, шмат калі па дзьве штукі. Ад гэтага цана на скаціну паднялася надта. Скаціну прыходзілася хаваць ад акупантаў па лясох, акопах, ямах, паграбох і г. д. Нічога дзіўнага, што скаціны засталася мала й тая нэндзная й старая. З гэтае прычыны цяпер надта цяжка выхаваць рэштк ie яе, бо на яе напядае̂ неспадзеваны яшчэ страшнейшы патаемны вораг. Гэта хвароба на скаціну—мор.

У нас мусі напэўна ніхто ня помніць гэтае хваробы. Старыя людзі кажуць, што калісь даўней была „паветра“ на людзей, которая ўнясла ў могілкі вялікую лічбу людцоў гэтага краю. Цяпер, дзякаваць Богу, аб гэтай хваробе ня чуваць, але паказаўся занесяны бальшавікамі з Расеі мор на скаціну, які так сама няўтрымна і надта хутка шырыцца на ўсіх месцовасьцях, праз якія прайшлі бальшавікі. Гэты мор таксама прайшоў праз стады рагатае скаціны, як у даўнейшыя часы „паветра“ праз людзей. Ад гэтай хваробы гіне найменей 80 з кождых 100 галоў, Пасьля заражэньня скаціна здыхае на працягу якіх небудзь 5 дзён.

Гэтай хваробай хварэюць таксама гавечкі і козы, хаця ня так лёгка заражаюцца і ня так цяжка хварэюць.

Наш край збавіўся-б, разумеецца, ад гэтае хваробы на скаціну, каб наша ўлада магла адразу ўзяць яго ў сваё веданьне і зачыніць уваход ад яго бадзяням цэлага сьвету. Ўлада паставіла-б на усіх рубежах гасударства старажавое войска і не дапусціла-б з заражаных краёў ні воднай скаціны на сваю зямлю. Але ў вызваленай з-пад бальшавікоў на поўнач усходняй ад Вільні старане Літвы ўлада наша ўжо найшла гэтую хваробу. Пазнаць адразу заражоную скаціну ня можна, бо знакі хваробы паказваюцца пасьля некалькіх дзён. Карова перастае есьць, ня жуе жвачку, мала дае малака і стаіць павесіўшы ґалаву. У яе цямнеюць губы, дзясны і язык. Далей у вочах паказваюцца сьлёзы і на дзяснах і пысках (губах) ранкі. З носа цячэ гідкая сьлізь, памёт становіцца тухлым і часта бывае захварбаваны кроўю.

Цэлая туша хворай скаціны пранізана заразай. Ўсе мейсцы, дзе пяродйзе хворая скаціна, ці то выган, ці дарога, ці вадапой усюды заставіць пачаткі хваробы. Чалавек, датычачыйся хворай скаціны, можа перанясьці заразу на здаровую жывіну. Калі здохлая скаціна блага закапана, ня глыбака, ды сабакі і птушкі, расцягваючы падліну, могуць разнясьці хваробу на шырокі прастор. Хвароба гэта надта хутка прыстае і не дарэмна дастала назву „мору“, „паветра“, бо пераносіцца ветрам, распрастраняецца пры дапамозе ветру.

Усякую хворую скаціну, а тым балей хворую на мор, трэба абавязкова ў тэй самы раз адлучыць ад здаровых. Мала гэтага. Трэба найхутчэй паведаміць доктора, які лечыць скаціну, так званага ветэрынара, калі такі знаходзіцца дзе ў акалічнасьці. Калі блізка ветэрынара няма, каторы павінем паведаміць ветерынарны Дэпартамэнт, дык трэба паведаміць мясцовую Ўладу, каб яна ведала аб паяўленьні ў гэтым месцы хваробы і магла пачаць барацьбу з ёй і ня даць ёй шы-

рыцца. Зрабіць гэта Ўлада павінна, бо павінна клапаціцца аб дабрабыце ўсіх жыхароў краю і абараняць іх маемасьць. Калі згуба рагатае скаціны ў аднаго працаўніка прынясла бы тысячныя страты, ды штож было-б, каб ад гэтае хваробы пачала здыхаць скаціна па ў сёй Літве? Гэта-ж прынясло бы краю і яго жыхарам мільёны, нават сотні мільёнаў шкоды. Тады ня толькі мы ня мелі-б малака, але ня было-б гною на палеткі, і ўся наша гаспадарка, і так ужо хібнуўшая і зруйнаваная, апусьцілася-б на дно пропасьці. Дзеля гэтага з увагаю трэба слухаць і выпаўняць распараджэньне вэтэрынарных дахтароў і прэдстаўнікоў Улады, каб гэты праўдзівы „біч Божы“ ня вымеў з цэлага нашага краю і нашых хлявоў нашай скаціны.

Пакуль толькі частка Літвы знаходзіцца пад страхам гэтае бяды, можна яшчэ ратавацца і збавіцца далейшага яе пашырэньня. Ды баранемся. Не чакайма, пакуль ва ўсім краі распачнецца гэта страшэнная хвароба, бо тады ўжо позна будзе.

## Адказы рэдакцыі.

**Сяляне з вёскі К. просяць выясьніць.** Упрэднік памешчыка С. колькі дзесят гадоў таму прыгарнуў і прысвоіў часьць зямлі, належачай да нашай вёскі. Кожны з нас мае по 20 дзесяцін надзельнай зямлі і апрача гэтага мелі сваі пасьбішча, дзе пасьвілі свае быдла як перад захватам зямлі памешчыкам, так і пасьля таго.

Калі бацька уласьніка С. купіў гэты маёнтак ад упрэдніка, катораму наша вёска адбывала паншчыну, мы за гэтае пасьбішча плацілі кожны год, ня шмат плацілі дык і маўчалі. Кантракту ня мелі і ня маемо, плацілі так з рук у рукі. Цяперака, калі сталі Улады Літоўскія і маюць правіць усім па справядлівасьці, мы так сама хацелі-б атрымаць адабраныя ад нас пасьбішчы. Довадаў, што гэтая зямля была нашай, мы ня маемо ніякіх. Засталіся толькі старыя людзі, што

памятуюць, як будучы пастухамі на тых пасьбішчах бяз перашкоды пасьвілі:

**Адказ:** Каб пераканацца, ці запраўды памешчык прыгарнуў да сябе вашу зямлю, трэба мець адпаведныя дакумэнты, каторыя-бы ясна даводзілі, што тая зямля была вашай. Словам, тут мала таго, каб сьведкамі даводзіць сваю праўду, можна гэтага дабіцца толькі праз суд і то не заўсёды. Цяжкія часы і большыя шальмоўства закрываюць і кідаюць у procьму забыцьця. Калі даходзіць прычын усіх крыўдаў, што зроблены сялянам памешчыкамі, дык можна знайсьці больш горшыя крыўды, чым адабраньне зямлі, у дадатку не даведзенае, як мае быць.

Адабраньне зямлі памешчыкамі часта бывала згодна законам быўшых Уладаў Расейскіх і ў вачах памешчыкаў, ні бы ніякай крыўды для сялян гэтым і не рабілася, Трэба было-б у гэткіх здарэньнях вінаваціць не памешчыкаў, а быўшыя несправядлівыя законы. А калі законы несправядлівыя, то ня трэба зганяць помсты на іх выпоўніцелях,

У справе вашай вёскі трудна знайсьці вінаватага, хаця-б дзеля таго, што гаворачы вашымі славамі, што памешчыка, каторы прыгарнуў вашу зямлю у маёнтку даўно німа. Зямлю купіў другі, праці каторага і вы нічога дрэннага сказаць ня можаце, а нават і ён памёр, а ўжо сын яго, згадзіцеся самі, можа і ня ведаць, што ў яго маёнтку ёсьць зямля, прыгарнутая калісь-то ад сялян.

Трудна даць вам адпаведную раду.

Адно вам магу сказаць, што Літоўскія Улады цяперака заняты на многа важнейшай справай—якім спосабам раздаць памешчыцкія землі працуючым на зямлі людзям, чым расконваць глыбока паросшую і даўно загараную рану. Той, хто зусім ня мае зямлі, ці мае ды замала, а хоча і умее працаваць на ёй, той магчыме яе дастаць, А хто мае валоку і болей, той слабую можа мець надзею, што яму яшчэ дададуць. Таму, каторы мае валоку і болей, можам параіць думаць аб тым, каб гэтую зямлю лепей вырабіць, угнаіць, падняць яе культуру і такім чынам павялічыць яе ураджайнасьці.

# КАМІСЫЯ У СПРАВЕ ЗЯМЕЛЬНАЙ РЭФОРМЫ,

прыгатаўляючы матэрьял для агульнай зямельнай рэформы, просіць усе воласьці ў ваколіцах, вызваленых ад польскай і бальшавіцкай акупацыяў, парабіць на мясцох спісы: 1) Усіх маёнткаў і фальваркаў тых уласьнікаў (абшарнікаў), што маюць больш як 100 дзесяцін зямлі , і 2) Усіх беззямельных і малазямельных, што хочуць дастаць зямлі.

## СПІСЫ ГЭТЫЯ ТРЭБА ЎПАРАДКАВАЦЬ ЗГОДНА ПАКАЗАНЫХ ТУТАКА ФОРМАЎ.

Вёскі.............................воласьці.............................., мястэчка ........................

| № па парадку | ІМЯ і ФАМІЛІЯ | МАЛАЗЯМЕЛЬНЫЯ | | | | | | | | Увагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Маюць зямлі | | Колькі хацелі-б дастаць зямлі | | | | Колькі душ на пракарм. | Колькі ваенных | |
| | | | | Ва уласьнасьць | | У арэнду | | | | |
| | | Ня болей 3 дзес. | Ад 3 да 6 дзес. | За гат. грош. | На выплату | На срок | На заусёды | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 8 | 10 | 11 |
| | | | | | | | | | | |

Маёнтку, вёскі........................воласьці, ваколіцы, мястэчка......................

| № па парадку | ІМЯ і ФАМІЛІЯ | БЕЗЗЯМЕЛЬНЫЯ | | | | | | | | | Увагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Парабкі, ардынарнікі | Наёмныя, вольныя | Маюць кват. ці куты | Колькі хацелі-б дастаць зямлі | | | | Колькі душ на пракарм. | Колькі вайсковых | |
| | | | | | Ва уласнасьць | | У арэнду | | | | |
| | | | | | За гат. грош. | На выплату | На срок | На заусёды | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | | | | | | | | |

Воласьці........................................ Павету........................................

| № па парадку. | Назова мейсца (маёнтку ці фальварку. | МАЁНТКІ і ГАСПАДАРКІ (што маюць больш як 100 дзесяцін, ці 200 маргоу) | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | Царкорнай зямлі (уселякіх. верау) | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Колькі | | Абшар. | | У І Х Л І К У | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | У іх лічбе | | | | | | | |
| | | | | | | Уласных | | | | | | | Майоратау | | | | | | | Падараных (царамі) | | | | | | | Скарбовых | | | | | | Каталіцк. | | Пратэстан | | Правасл. | | Другіх вер. | |
| | | | | | | | Абшар. | | Пад што заняты | | | | | Абшар. | | Пад што заняты | | | | | Абшар. | | Заняты | | | | | | Заняты | | | | | | | | | | | |
| | | Маёнткау | Фальваркау | Маёнткау | Фальваркау | Колькі | Усяго | Сэрвітутау | Надатнай для гаспадаркі | Лясоу | Пасекі (ад пачатку вайны). | Няужываемай | Колькі | Усяго | Сэрвітутау | Надатнай для гаспадаркі | Лясоу | Пасекі (ад пачатку вайны). | Няужываемай | Колькі | Усяго | Сэрвітутау | Надатнай для гаспадаркі | Лясоу | Пасекі | Няужываемай | Колькі | Абшарнік. | Надатнай для гаспадаркі | Лясоу | Пасекі | Няужываемай | Колькі | Абшар. | Колькі | Абшар. | Колькі | Абшар. | Колькі | Абшар. |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

Співы павінны быць сьцьверджаны подпісамі валасных праўленьняў і адасланы ў Камісію Зямельнай Рэформы пры Мінісгэрстве Земляробства.

Д. І. БЛІНАС
Праз Камісіі ў справе зямельнай рэформы.